Гродна
№12 (494),
10 чэрвеня 2018

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# ПІЛІГРЫМЫ



# НАПАГАТОВЕ

Разам са спякотным летам прыходзіць гарачая пара пілігрымак. Як і ў мінулыя гады, у чэрвені выходзяць пешыя паломніцтвы ў нацыянальны санктуарый у Будславе, а ў ліпені вернікі скіроўваюцца ў дыяцэзіяльны санктуарый у Тракелях. Да якой пілігрымкі з Гродзенскай дыяцэзіі можна далучыцца, каб разам прайсці шлях да святога месца? І якога зводу правіл варта прытрымлівацца паломніку, каб духоўнае падарожжа прынесла багаты плён і пакінула ў душы глыбокі след?

● працяг на с. 4–5



# Пабернардынскі касцёл. А ці ведалі Вы, што... ?

Касцёл Адшукання Святога Крыжа ў Гродне (пабернардынскі) з'яўляецца найстарэйшым у горадзе і ўваходзіць у дзясятку старэйшых касцёлаў дыяцэзіі. Да 400-годдзя кансэкрацыі святыні прапануем увазе чытачоў "Слова Жыцця" некалькі вядомых і малавядомых фактаў пра пабернардынскі касцёл.

● працяг на с. 4–5

"Хрысціянскае жыццё – гэта пакорная пілігрымка сумлення". Папа Францішак

# РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

### X ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ

**Мк 3, 20–35**

Езус з вучнямі прыйшоў у дом. І зноў сабраўся натоўп, так, што яны не маглі нават хлеба паесці. Пачуўшы гэта, Яго родныя пайшлі забраць Яго, бо казалі, што Ён страціў розум. А кніжнікі, якія прыйшлі з Ерузалема, казалі, што Ён мае ў сабе Бэльзэбуба і выганяе дэманаў праз князя дэманаў.

А Езус, паклікаўшы іх, казаў ім у прыпавесцях: “Як можа сатана выганяць сатану? Калі валадарства раздзеліцца само ў сабе, не можа выстаяць такое валадарства. І калі дом раздзеліцца сам у сабе, не можа выстаяць такі дом. І калі сатана паўстаў супраць самога сябе і раздзяліўся, не можа выстаяць, але канец яму. Ніхто не можа ўвайсці ў дом асілка і выкрасці ягоныя рэчы, калі спачатку не звяжа асілка, і толькі тады абрабуе дом ягоны. Сапраўды, кажу вам: дараваныя будуць сынам чалавечым усе грахі і блюзнерствы, якімі б ні блюзнерылі. Але хто будзе блюзнерыць супраць Святога Духа, не атрымае даравання ніколі, але падлягае вечнаму асуджэнню”. Так сказаў, бо гаварылі пра Яго: “Ён мае нячыстага духа”.

І прыйшлі Маці Яго і браты Ягоныя і, стоячы звонку, паслалі паклікаць Яго. Сядзеў каля Яго натоўп і казаў Яму: “Вось Маці Твая і браты Твае, і сёстры Твае на вуліцы шукаюць Цябе”. І сказаў ім у адказ: “Хто маці Мая і браты Мае?”. І, паглядзеўшы на тых, хто сядзеў вакол Яго, сказаў: “Вось маці Мая і браты Мае. Бо хто будзе выконваць волю Божую, той Мне брат і сястра, і маці”.

### ХРЫСТОС – НАШ ФУНДАМЕНТ

Езус паказвае нам, як павінны паводзіць сябе ў складаных жыццёвых сітуацыях. Нельга паддавацца націску з боку іншых людзей, іх меркаванням, аддаляцца ад Бога і Касцёла, але ўсімі сіламі падтрымліваць сувязь з Хрыстом, захоўваць Яго наказы. Мы не павінны ставіць вышэй за Усемагутнага людзей, нават самых блізкіх нашаму сэрцу, бо не ўдасца пабудаваць моцнае жыццё на чалавеку. Збаўца ж з’яўляецца трывалым фундаментам, які ніколі не пахіснецца. Ён жыве і дзейнічае ў кожным з нас, у нашых парафіях, у Касцёле.

Давайце даручым Пану сваё жыццё, на Ім будуючы сваю сучаснасць і будучыню.

**Як я клапачуся аб сваіх адносінах з Хрыстом?**

**Што для мяне больш важнае: словы людзей ці слова Бога?**

### XI ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ

**Мк 4, 26–34**

Езус сказаў народу: “Валадарства Божае – нібы чалавек, што кідае зерне ў зямлю. І спіць, і ўстае ноччу і днём, а як зерне ўзыходзіць і расце, ён не ведае. Бо зямля прыносіць плён сама па сабе: спачатку зеляніну, потым колас, потым поўнае зерне ў коласе. Калі ж саспее плод, адразу пасылае серп, таму што настала жніво”. І казаў: “З чым параўнаем Валадарства Божае? Ці ў якой прыпавесці выявім яго? Яно як гарчычнае зерне: калі яго сеюць у зямлю, яно найменшае з усяго насення на зямлі. Калі ж пасеяна, узыходзіць і становіцца большым за ўсялякую зеляніну, і пускае вялікае галлё, так, што пад ценем ягоным могуць хавацца птушкі нябесныя”.

У многіх такіх прыпавесцях прапаведаваў ім слова, колькі яны маглі слухаць. І без прыпавесці не казаў ім, а сваім вучням сам-насам тлумачыў усё.

### ВАЛАДАРСТВА БОЖАЕ СЯРОД НАС

Пры дапамозе прапавесцей Пан Езус паказвае нам, што Божае Валадарства можна адшукаць кожны дзень у найменшых падзеях штодзённасці, што мае свае ўзлёты і падзенні.

Хрыстос вучыць нас, што дзе б мы не знайшлі любоў, дзе б не адорвалі ёю іншых, там знаходзіцца Божае Валадарства. Усемагутны прагне, каб мы любілі, таму што сам з’яўляецца Любоўю. Таму калі любім адзін аднаго, калі мілуем нават нашых непрыяцеляў, спрыяем будаванню Нябеснага Валадарства ўжо тут, на зямлі, становячыся незаменнымі яго цаглінкамі. Гэтыя намаганні, гэты выклік і з’яўляецца ўзгаданым Езусам у Евангеллі зярняткам гарчыцы – на першы погляд такім маленькім і нязначным, што становіцца разгалістым кустом, і нават птушкі могуць гняздзіцца ў яго галлі.

Не трэба апускаць рукі, нават калі падаецца, што ўжо нішто не мае сэнсу. Варта памятаць, што ўсюды, дзе мы праяўляем любоў, ёсць Божае Валадарства.

**Ці стараюся будаваць Валадарства Пана на зямлі?**
**Як я выказваю любоў да людзей?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Сказаць, чым жыве сэрца

*Кожнаму верніку неабходна месца, дзе ён можа асабіста сустрэцца з Нябесным Айцом, з бліжнімі і з самім сабой. Такім месцам з’яўляецца святыня. Гэта і знак прысутнасці Стварыцеля сярод свайго стварэння (там супольнасць сустракаецца з Богам у Езусе Хрысце – адзіным Пасрэдніку паміж Усемагутным і людзьмі), і пляцоўка для супрацоўніцтва з братамі па веры (там хрысціяне збіраюцца, каб разам служыць Богу і іншаму чалавеку), і абшар, дзе можна сустрэцца з самім сабой (там вернікі, змучаныя штодзённай гонкай, хаця б на хвіліну затрымліваюцца, каб адсунуць на далейшы план мірскія справы і стаць у праўдзе перад Богам, нібы зірнуць на сябе Яго вачамі).*

Аднак ёсць асаблівыя святыні, у якія штогод накіроўваюцца шматлікія пілігрымкі. У Гродзенскай дыяцэзіі ўжо зусім хутка сотні паломнікаў вырушаць у санктуарый Маці Божай Каралевы Нашых Сем’яў у Тракелях, каб у чарговы раз даручыць свае планы і надзеі Багародзіцы.

Выключнай будзе пілігрымка ў санктуарый Пана Езуса Журботнага ў Росі, таму што сёлета прыпадае 400-ая гадавіна з моманту першага занатаванага ў парафіяльных кнігах цуду. Калісьці адна пажылая жанчына, сляпая ад нараджэння, прыбыла ў касцёл з жаданнем прыступіць да споведзі. Яна праціскалася праз натоўп вернікаў, сабраных на св. Імшы, просячы дапамагчы ёй дабрацца да святара. Тады хтосьці вырашыў пажартаваць і накіраваў жанчыну да фігуры Езуса Журботнага, якая ў той час стаяла ў прытворы касцёла. Жанчына ўпала перад скульптурай на калені і пачала спавядацца. Калі скончыла пакаянне, рука ў фігуры Хрыста паднялася ў жэсце адпушчэння грахоў, а жанчына стала відушчай.

Па прыкладзе гэтай жанчыны многія вернікі адпраўляюцца ў дарогу, каб стаць перад Богам у духу пакоры і з раскаяннем у сэрцы. Стаць у праўдзе з усім тым, што ляжыць на душы. Часта з цяжарам, што прыгнятае да зямлі. Стаць, каб расказаць пра свае страхі і турботы, каб пачуць ад Марыі: “Зрабіце ўсё, што Сын мой скажа вам”.

Шлях пілігрымавання заўсёды спалучаны з вялікай ахвярай, а няраз і з цярпеннем. Аднак, нягледзячы ні на што, мноства людзей штогод дабравольна бярэ на сябе гэтае ўтаймаванне. Яго патрабуюць як самі асобы, якія вырушаюць у дарогу, так і іх сем’і і блізкія. Яго патрабуе і Касцёл на Гродзеншчыне, у Беларусі, каб мы ўсе як адна супольнасць адчувалі прысутнасць і падтрымку адзін аднаго, каб разам пазнавалі, чым для нас з’яўляецца Касцёл і з надзеяй глядзелі ў будучыню.

Бачачы на дарогах столькі маладых і старэйшых вернікаў, нараджаецца надзея, што на нашых землях вера, якую паломнікі нясуць у сваіх сэрцах, будзе развівацца, што яна стане паўсюднай у нас саміх, нашых сем’ях і грамадстве.

**Дарагія Чытачы!**

Падтрымайма малітвамі ўсіх пілігрымаў, якія сёлета возьмуць на сябе цяжкасці падарожжа ў святыя месцы. Па меры сваіх магчымасцей і схільнасцей давайце таксама прымем удзел у тых цудоўных сустрэчах, што адраджаюць веру ў сэрцах і напаўняюць іх Божым духам!

## “НАШЫ ЗАСТУПНІКІ ПЕРАД БОГАМ”

# СВ. АНТОНІЙ ПАДУАНСКІ: ЗАСТУПНІК ЗГУБЛЕНЫХ АСОБ І РЭЧАЎ



*У іканаграфіі св. Антоній прадстаўлены ў францысканскім хабіце. Часта адлюстроўваецца падчас прамаўлення казання, часам трымае Дзіцятка Езус, якое, паводле легенды, аб’явілася яму. Атрыбутамі святога з’яўляюцца кніга, лілея, сэрца, агонь, бохан хлеба, асёл, рыба.*

**Адзін з найпапулярнейшых святых. Хіба, няма касцёла, у якім не было б алтара, фігуры ці абраза св. Антонія. З’яўляецца заступнікам ордэнаў францысканцаў, антанінак і многіх брацтваў; дзяцей, шахцёраў, сужэнстваў, нарачоных, парадзіх, убогіх, падарожнікаў і інш.**

### КАСЦЁЛЫ НЕ ЎМЯШЧАЛІ ЯГО СЛУХАЧОЎ

Фернанда дэ Буён з’явіўся на свет у 1195 годзе ў Лісабоне (Партугалія). Паміж 15-цю і 20-цю гадамі ўступіў у ордэн Рэгулярных Канонікаў св. Аўгустына. Вывучаў тэалогію ў Каімбры. Там жа ў 1219 годзе прыняў святарскае пасвячэнне.

Моцнае ўражанне на яго аказала сустрэча з 5-цю францысканцамі, а асаблівым чынам іх просты і ўбогі стыль жыцця. Айцы накіроўваліся ў Афрыку, каб абвяшчаць Божае слова. Пачуўшы пра іх смерць, Фернанда ўспрыняў гэта як Божы заклік, уступіў у супольнасць францысканцаў і атрымаў імя Антоній. Вырашыў накіравацца ў Марока, каб абвяшчаць Евангелле язычнікам нават цаной свайго жыцця, але з-за цяжкай хваробы мусіў вярнуцца. Аднак скіраваўся не на радзіму, а ў Італію.

У Асізі сустрэў св. Францішка. Браты, разгледзеўшы гамілетычны талент Антонія, прызначылі яго генеральным прапаведнікам ордэна. Манах падарожнічаў па гарадах і вёсках, заклікаючы людзей да навяртання і пакаяння. Прамаўляў казанні ў Францыі, дзе эфектыўна процідзейнічаў альбігенсам. Красамоўства, святасць і незвычайныя дары (аздараўленне, чытанне ў сумленнях, білакацыя) збіралі побач з прапаведнікам настолькі вялікія натоўпы, што ён быў вымушаны прамаўляць на плошчах, бо касцёлы не маглі змясціць усіх слухачоў. Вялікае ўражанне пропаведзі Антонія аказалі і на папу Рыгора IX, які слухаў яго ў Рыме.

Манах працаваў нястомна і адзначаўся незвычайнай памяццю. Ведаў Біблію настолькі дасканала, што пра яго казалі: “Калі б усе Святыя Пісанні знішчылі, Антоній мог бы прадыктаваць тэксты сакратару, каб такім чынам аднавіць іх”.

У 1230 годзе Антоній адмовіўся ад усіх манаскіх пасад і накіраваўся ў Падую. Ужо тады ён быў цалкам вычарпаны працай. Памёр 13 чэрвеня 1231 года. 30 мая 1232 года далучаны папам Рыгорам IX да ліку святых. Гэта быў самы хуткі кананізацыйны працэс у гісторыі Касцёла! Папская камісія сцвердзіла, што за гэты час праз заступніцтва Антонія Падуанскага пяцёра чалавек аздаравіліся ад параліча, сямёра сляпых атрымалі зрок, трое глухіх – слых, двое нямых – мову, а яшчэ 2 асобы былі ўваскрэшаны з памерлых.

Калі праз 30 гадоў адкрылі труну святога, аказалася, што яго цела цалкам разлажылася, а язык і галасавыя звязкі ацалелі. Пры яго магіле да гэтага часу адбываюцца шматлікія цуды.

### ЧАМУ МОЖАМ НАВУЧЫЦЦА Ў СВ. АНТОНІЯ ПАДУАНСКАГА?

Прыкладам свайго жыцця святы заахвочвае сучасных людзей да 2-ух вялікіх заданняў: абвяшчаць Добрую Навіну пасродкам новай евангелізацыі, а таксама выхоўваць у сабе адчувальнасць на іншага чалавека.

### ЦІКАВА!

Побач з фігурай святога ў касцёлах можна ўбачыць скарбонку з надпісам “Хлеб св. Антонія”. Гэты звычай з’явіўся ў Тулузе (Францыя) у 1886 годзе. Міласціну для бедных пачалі злучаць з просьбай да святога ці падзякай яму за выпрашаную ласку.

### З ВУСНАЎ СВЯТОГА

“Чалавек сталее ў пакоры сэрца. Чым больш ён памяншаецца ў сабе, тым больш Бог узрастае ў ім”.

### ЛІТУРГІЧНЫ ЎСПАМІН

Касцёл узгадвае св. Антонія Падуанскага 13 чэрвеня.

*Кс. Юрый Марціновіч*

# НЕСЦІ РАДАСЦЬ ЕВАНГЕЛЛЯ І МОЦ БОЖАЙ ЛЮБОВІ




**На працягу некалькіх апошніх гадоў у краіне назіраецца сапраўдны бум хрысціянскай музыкі. Адбываюцца фестывалі, канцэрты, выпускаюцца музычныя альбомы, паўстаюць новыя гурты, харавыя калектывы і ансамблі, якія праз сваю творчасць папулярызуюць агульнахрысціянскія каштоўнасці. У сённяшнім нумары “Слова Жыцця” распавядаем пра дзейнасць моладзевага гурта “Veni”, які ўзнік пры парафіі св. Міхала Арханёла ў Навагрудку. Яго ўдзельнікі спевам і музыкай праслаўляюць Бога, абвяшчаюць Евангелле, робячы свой унёсак у развіццё хрысціянскай культуры на Навагрудчыне.**

## СПЯВАЦЬ І ГРАЦЬ ДЛЯ ПАНА

Моладзевы хрысціянскі гурт “Veni” паўстаў напрыканцы 2016 года па ініцыятыве мясцовага пробашча кс. Юрыя Жэгарына, які хацеў такім чынам згуртаваць моладзь вакол Евангелля і Касцёла, а таксама дапамагчы хлопцам і дзяўчатам адкрыць у сабе музычныя таленты. Першапачаткова ўдзельнікамі гурта былі 3 чалавекі, з цягам часу яго склад пашырыўся. На дадзены момант членамі “Veni” з’яўляюцца Юлія Аскерка (вакал, клавішы), Кацярына Шчыкалава (вакал), Дар’я Аўсяная (вакал), Марк Крывіцкі (гітара), Яна Крывіцкая (бас-гітара), Данііл Сакевіч (ударныя).

***“У нас падабралася дастаткова разнашэрсная кампанія,*** – гавораць маладыя музыканты. – ***Некаторыя яшчэ вучацца ў школе, а хтосьці ўжо атрымлівае вышэйшую адукацыю і працуе. Нам ад 14-ці да 24-ох гадоў, і мы сапраўды вельмі розныя. Але ёсць тое, што нас аб’ядноўвае – любоў да Бога, а таксама жаданне дакранацца сваёй музыкай да людскіх сэрцаў і перадаваць ім тое, што Усявышні хоча сказаць праз нас”.***

Удзельнікі гурта адзначаюць, што назву калектыву падбіралі вельмі доўга і скрупулёзна. У выніку спыніліся на варыянце “Veni”, што ў перакладзе з лацінскай мовы азначае “прыйдзі”. ***“У гэтым слове падкрэсліваецца сэнс кампазіцый, якія мы выконваем, заклікаючы кожнага чалавека прыйсці да Бога і веры. Таксама такім чынам просім прысутнасці Святога Духа, які натхняе на добрыя і годныя справы”,*** – распавядаюць маладзёны.

У рэпертуары “Veni” – самыя разнастайныя кампазіцыі: песні праслаўлення, песні-разважанні, лірычныя, пілігрымскія песні... Хлопцы і дзяўчаты спрабуюць сябе ў розных музычных стылях. З лёгкасцю спалучаюць класічныя рытмы з барабанамі і гукамі бас-гітары, надаючы сваім кампазіцыям асаблівы каларыт, альбо даюць акцэнт на вакал і клавішы, каб дадаць песням мяккасці і лірызму.

***“На самым пачатку свайго існавання мы выконвалі песні іншых гуртоў,*** – распавядае Яна Крывіцкая. – ***Бралі прыклад і натхняліся дзейнасцю такіх калектываў, як «AVE», «Подых Духа», «Рыбы». Пасля пачалі спрабаваць падбіраць музыку да гатовых тэкстаў. Зараз жа паднімаемся на новую прыступку – пачынаем ствараць уласныя вакальна-інструментальныя кампазіцыі. Мы не гонімся за славай, а стараемся прыгожа праслаўляць Бога, паколькі Ён варты самага лепшага”.***

Першы канцэрт “Veni” адбыўся ў ліпені 2017 года ў Бярозаўцы. Цягам года музыканты выступілі ў касцёлах Навагрудка, ва Уселюбе, пабывалі ў Іўі, Мінску, Пінску, Жодзіне, Гродне. Таксама разам з супольнасцю “Ubi Caritas” з Івянца на чале з іх духоўным кіраўніком а. Яўгенам Голубам OFMConv правялі ў роднай парафіі музычную майстэрню, якая прадугледжвала інтэнсіўную працу для ўсіх, хто зацікаўлены ў касцёльным літургічным спеве і моладзевых песнях праслаўлення. Зімой зладзілі інтэрактыўны перадкалядны канцэрт, падчас якога прадставілі цікавую музычную праграму, насычаную шчырымі духоўнымі разважаннямі. Далі магчымасць усім прысутным быць не толькі слухачамі, але таксама прымаць актыўны ўдзел у мерапрыемстве.

***“Кожны канцэрт хвалюючы і незабыўны. Калі дзелішся са слухачамі сваімі думкамі і перажываннямі, калі праслаўляеш Хрыста, дорыш сваім спевам і музыкай імгненні радасці і шчасця іншым, то эмоцыі б’юць цераз край, атрымліваеш вялікую асалоду ад таго, што робіш,*** – падкрэсліваюць удзельнікі.



*Салісткі “Veni” – удзельніцы III Фестывалю марыйных песень у Баранавічах*




*Рэпетыцыі гурта праходзяць у адным з памяшканняў святыні, тут знаходзяцца музычныя інструменты і гукаабсталяванне*

Хлопцы і дзяўчаты таксама адзначаюць, што гурт стаў для іх другой сям’ёй. Яны шмат часу праводзяць разам, дбаюць пра цёплую і прыязную атмасферу, будуюць сваю супрацу на ўзаемапаразуменні і згодзе. ***“Мы заўсёды падтрымліваем адзін аднаго, разам адзначаем Дні нараджэння і святы, а дзякуючы творчасці і актыўнасці ў парафіі ўзрастаем у духоўным плане. Цешуся, што «Veni» стаў часткай майго жыцця, навучыў сведчыць аб сваёй веры, дзяліцца ёю з іншымі людзьмі”,*** – гаворыць Кацярына Шчыкалава.

Марк Крывіцкі падкрэслівае, што агульнае жаданне усіх музыкантаў – пашырэнне калектыву: ***“Мы заўсёды паўтараем, што наша музычная супольнасць адкрыта для ўсіх жадаючых. Будзем рады бачыць у сваіх шэрагах новых удзельнікаў. Зараз пачынаем працаваць з дзеткамі. Хочам навучыць іх таму, што самі ўмеем, каб яны некалі працягнулі нашу справу”.***

## ПРАЗ МУЗЫКУ – ДА БОГА

Гавораць, што музыка – гэта магутны інструмент у руках чалавека. Яна здольна падымаць настрой, стымуляваць дзейнасць, натхняць, запальваць на вялікія справы, а таксама пакідаць у свядомасці адпаведныя каштоўнасці: разуменне дабра і зла, праўды і веры.

***“Слухаючы музыку, мы напаўняемся ёю і пераменяемся. Нават па знешнім выглядзе можна часта з лёгкасцю вызначыць, якой прыкладна музыкай захапляецца чалавек. Таму неабходна вельмі адказна падыходзіць да таго, што слухаем, бо ў канчатковым выніку гэта адлюструецца на тым, як мы сябе паводзім, як думаем, што гаворым,*** – падкрэслівае Яна Крывіцкая. – ***Прыход у калектыў даў мне не толькі магчымасць самарэалізацыі. Дзякуючы «Veni» я пачула сваё сэрца, зразумела, што хачу разам з іншымі хрысціянамі рабіць нешта для Бога. У Ім я знайшла цэнтр свайго жыцця, той фундамент, на якім хачу будаваць сваю будучыню”.***

Дзяўчына распавядае, што паходзіць з сям’і непрактыкуючых праваслаўных вернікаў. Да прыходу ў калектыў у яе было шмат стэрэатыпаў адносна хрысціянства. Дзяўчына не ўяўляла, што жыццё ў веры можа быць такім прыгожым, простым і зразумелым. Праз некаторы час Яна глыбей паглядзела на саму сябе, у яе ўзнікла жаданне стаць бліжэй да Бога: ***“Зараз я афіцыйна далучылася да каталіцкай супольнасці. Цешуся, што ўскладаю ўсе свае надзеі на Пана, слухаю Яго словы, дарую Яму кожны свой дзень. Не закрываю сваё сэрца на падзяку і праслаўленне і атрымліваю шмат ласкаў са скарбніцы Божай любові”.***

Падобнай гісторыяй дзеліцца Дар’я Аўсяная: ***“Музыка з хрысціянскім пасланнем наблізіла мяне да Бога. Я навучылася дзяліцца сваім запалам, радасцю і верай. Яна заўсёды дапамагае мне ўвайсці ў адпаведны настрой, выразіць свае перажыванні. Добра, што ёсць такі праект, які дапамагае зразумець, што ў жыцці з’яўляецца найбольш важным”.***

*Кінга Красіцкая*

---

## СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

### *Папа Францішак*



*Кожны раз, калі цэлебруем Эўхарыстыю, праз гэты сакрамант, такі просты і адначасова ўрачысты, мы перажываем Новы Запавет, які поўнасцю спаўняе камунію паміж Богам і намі. І як удзельнікі гэтага Запавету, хоць з’яўляемся малымі і беднымі, супрацоўнічаем у будаванні гісторыі паводле Божай задумы. Таму кожная эўхарыстычная цэлебрацыя, прадстаўляючы сабой акт публічнага ўшанавання Бога, адносіцца да жыцця і канкрэтных падзей нашага існавання. Сілкуючыся Целам і Крывёю Хрыста, становімся падобнымі да Яго, атрымліваем Яго любоў, але не для таго, каб яе раўніва захоўваць для сябе, а каб дзяліцца ёю з іншымі. Гэтая логіка ўпісана ў Эўхарыстыю. Атрымліваем любоў Збаўцы і дзелімся ёю з іншымі. Гэта логіка Эўхарыстыі! У ёй мы сузіраем Езуса – паламаны і ахвяраваны Хлеб, Кроў, пралітую за наша збаўленне. Яго прысутнасць, як полымя, спальвае ў нас эгаістычныя паводзіны, ачышчае ад схільнасці даваць толькі тады, калі самі атрымалі, і распальвае жаданне таксама станавіцца – у еднасці з Езусам – паламаным хлебам і крывёю, пралітай за братоў.*

*Фрагмент прамовы падчас сустрэчы з вернікамі на малітве “Анёл Панскі” ў Ватыкане, 03.06.2018*

### *Кс. бп Аляксандр Кашкевіч*



*Наколькі ж вялікі і цудоўны дар Эўхарыстыі! Якая ж дзівосная гэтая ежа, што дае нам вечнае жыццё! Даступная кожнаму, хто толькі захоча прыняць яе ў веры. Цяпер зноў спытаймася ў сябе аб веры: Ці веру я ў гэты дар? Ці давяраю абяцанню Хрыста? Ці прымаю з верай і ўдзячнасцю Яго запрашэнне на пасілак, які дае нам прадчуванне смакавання вечнага жыцця ў Нябеснай Айчыне?..*
*Сёння ў працэсіі Божага Цела Пан Езус выходзіць насустрач са сваёй бясконцай любоўю. У Найсвяцейшым Сакраманце, які нясём праз вуліцы горада, Ён уваходзіць у нашу рэчаіснасць, мінае дамы вернікаў і няверуючых, старанных і абыякавых, мінае крамы і ўстановы, гасцініцы, школы і бальніцы, месцы, у якіх праходзіць жыццё звычайных, слабых, грэшных людзей, каб несці ім сваё благаслаўленне.*
*Як спяваем у прыгожай эўхарыстычнай песні, “двары нашы аглядзець прыходзіць і як Яго дзецям жывецца”. Ідучы за Езусам, мы публічна вызнаём сваю веру. Але таксама – што найважнейшае – вызнаём сваё жаданне ісці за Хрыстом у біблійным сэнсе: быць Яго вучнямі і пераймаць Яго. Дык пойдзем жа з радасцю, ведаючы, што маем Бога блізкага і поўнага любові, для якога мы важныя, якога варта любіць і які дапамагае нам кахаць іншых!*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай перад працэсіяй Божага Цела ў гродзенскай катэдры, 03.06.2018*

## Варта ведаць

◆ *У Ватыканскіх садах адбылася цырымонія асвячэння мазаікі, на якой адлюстравана Марыя, Заступніца Гватэмалы. Урачыстасць узначаліў кардынал Джузэпэ Бертэлі, прэзідэнт губернатарства Дзяржавы-горада Ватыкан. Ініцыятыва была прымеркавана да 50-годдзя прадастаўлення статусу базілікі санктуарыю Найсвяцейшай Панны Ружанца ў Гватэмале – сталіцы аднайменнай краіны. Ватыканскія сады здаўна ўпрыгожваюць шматлікія рэпрадукцыі марыйных абразоў або статуй з розных санктуарыяў свету, з нядаўняга часу – і мазаіка з выявай Заступніцы Гватэмалы.*

◆ *Падчас сёлетняга XI Свята падзякі ў Святыню Божага Провіду ў Варшаве (Польшча) былі ўрачыста ўнесены рэліквіі св. Фаўстыны Кавальскай. З гэтай нагоды ў касцёле была адпраўлена св. Імша і прамоўлены Акт даручэння і падзякі. Эўхарыстыю цэлебраваў прымас Польшчы абп Войцех Поляк. У канцэлебры таксама ўдзельнічалі каля сотні біскупаў з краіны і з-за мяжы.*

◆ *Парламент Партугаліі не згадзіўся падчас галасавання на дэкрыміналізацыю т. зв. "смерці з дапамогай". Рашэнне большасці дэпутатаў азначае на практыцы адсутнасць згоды на легалізацыю эўтаназіі. Каментатары тэлебачання "SIC" ацанілі, што рашэнне Схода Рэспублікі стала адным з найважнейшых у гісторыі партугальскай дэмакратыі, што адлічвае свой пачатак ад бяскроўнага перавароту ў 1974 годзе, у выніку якога развалійся кансерватыўны рэжым Салазарыстаў.*

◆ *Украінскі каталіцкі ўніверсітэт аб'яўляе стыпендыяльны конкурс на навучанне па магістарскай праграме "Экуменічныя навукі: хрысціянства ў дыялогу з сусветнымі рэлігіямі, грамадствам і медыя". Прыняць удзел у ім могуць асобы са ступенню бакалаўра, магістра і адукацыйна-кваліфікацыйнага ўзроўню "спецыяліст", атрыманымі па спецыяльнасці "багаслоўе" або па іншай спецыяльнасці (напрамку падрыхтоўкі), а таксама тыя, хто завяршае навучанне на бакалаўрыяце ў чэрвені 2018 года. Конкурс працягваецца да 15 чэрвеня.*

◆ *Вярнуўшыся на Радзіму, пераможцы Лігі чэмпіёнаў пачалі сваё святкаванне візітам у мадрыдскую катэдру. Зборная "Рэал-Мадрыд" на чале з кіраўніком клуба Фларэнтына Перэсам і трэнерам Зінедзінам Зіданам падзякавала Маці Божай за сваю перамогу над "Ліверпулем". У катэдры футбольную каманду прывітаў мясцовы біскуп Хесус Відаль. "Для многіх маладых хлопцаў вы аўтарытэт, узор таго, што настойліва працаваць варта. Маладым вельмі патрэбны такія прыклады!" – зазначыў іерарх. У завяршэнне абаронца зборнай Хесус Вальехо прачытаў малітву вернікаў, а затым уся зборная адправілася да статуі Багародзіцы, дзе футбалісты "Рэала" паставілі свой кубак.*

*credo.pro; gosc.pl; niedziela.pl*

● *працяг са с. 1*

# ПІЛІГРЫМЫ НАПАГАТОВЕ

## Пешыя пілігрымкі ў Будслаў



**IV пешая пілігрымка Ліда – Будслаў**

Паломніцтва вырушыць 23 чэрвеня пасля св. Імшы ў касцёле Узвышэння Святога Крыжа ў 9.00. Дэвізам пілігрымкі стануць словы: "Верыць. Разумець. Сведчыць".

*Запіс і падрабязная інфармацыя па тэлефоне: (8 029) 121-10-82, кс. Дзяніс Бразінскі.*

**XIX пешая пілігрымка Смаргонь – Будслаў**

Салезіянская моладзевая евангелізацыйная пілігрымка вырушыць 26 чэрвеня пасля св. Імшы ў касцёле св. Міхала Арханёла ў 10.00. Паломніцтва пройдзе пад дэвізам "Пане, дай мне гэтай вады!".

*Запіс і падрабязная інфармацыя па тэлефоне: (8 029) 389-76-69, кс. Павел Шчарбіцкі SDB.*

**VIII пешая пілігрымка Гудагай – Будслаў**

Паломнікі вырушаць 25 чэрвеня пасля св. Імшы ў касцёле Адведзінаў Найсвяцейшай Панны Марыі ў 7.00. Тэма разважанняў пілігрымаў – "Марыя – Абраніцца Святога Духа".

*Запіс і падрабязная інфармацыя па тэлефоне: (8 029) 656-19-25, а. Казімір Мараўскі OCD.*

**Урачыстасці ў нацыянальным санктуарыі Маці Божай у Будславе будуць праходзіць 1–2 ліпеня.**

## Пешыя пілігрымкі ў Тракелі



**Гродна – Тракелі**

Пачатак пілігрымкі: 2 ліпеня ў 9.00 (св. Імша ў касцёле св. Францішка Ксаверыя).

*Адказны: кс. Павел Салабуда, (8-029) 637-07-17.*

**Навагрудак – Тракелі**

Пачатак пілігрымкі: 4 ліпеня ў 9.00 (св. Імша ў касцёле св. Міхала Арханёла).

*Адказны: кс. Юрый Жэгарын, (8-044) 552-21-99.*

**Іўе – Тракелі**

Пачатак пілігрымкі: 2 ліпеня ў 9.00 (св. Імша ў касцёле Найсвяцейшай Тройцы ў Сурвілішках).

*Адказны: кс. Ян Гавэцкі, (8-029) 632-21-79.*

**Ашмяны – Тракелі**

Пачатак пілігрымкі: 3 ліпеня ў 7.30 (св. Імша ў касцёле свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Барунах у 14.00).

*Адказны: кс. Ян Варанецкі, (8 029) 880-92-94.*

**Ваўкавыск – Тракелі**

Пачатак пілігрымкі: 2 ліпеня ў 8.00 (св. Імша ў касцёле св. Вацлава).

*Адказны: кс. Юрый Садоўскі, (8-033) 344-40-20.*

**Урачыстасці ў дыяцэзіяльным санктуарыі Маці Божай Каралевы Нашых Сем'яў у Тракелях будуць праходзіць 6–7 ліпеня.**

# Пабернардынскі касцёл.

● *працяг са с. 1*

## Касцёл вылучаецца зліццём розных архітэктурных стыляў

Асаблівым пабернардынскі касцёл робіць спалучэнне ў архітэктуры элементаў розных стыляў: готыкі, рэнесансу і барока. Вокны святыні гатычныя, але агульнае ўяўленне больш нагадвае нідэрландскі рэнесанс. Галоўны фасад касцёла выкананы ў стылі ранняга барока. А ў стылі позняга барока дабудаваны пасля вялікага пажару 2 верхнія ярусы званіцы.

Такім чынам, камбінацыя розных архітэктурных стыляў робіць святыню ўнікальнай і непаўторнай.

***Галоўны фасад рэканструяваны па ўзоры рымскага езуіцкага касцёла Іль-Джэзу, першапачатковы праект якога падрыхтаваны Мікеланджэла Буанароці.***

## Больш за 10 гадоў святыню ўпрыгожваў абраз Маці Божай з Будслава

З пэўных крыніц вядома, што раней адзін з алтароў у пабернардынскім касцёле быў прысвечаны Маці Божай Будслаўскай. Як узгадваюць некаторыя гісторыкі, у 1654–1665 гадах тут знаходзіўся сам цудоўны абраз (паводле іншых звестак, у гады вайны Расіі з Рэччу Паспалітай абраз быў вывезены з Будслава ў Сакулку, што ў Польшчы).

Адна з капліц у касцёле прысвечана Езусу Міласэрнаму. Яна паўстала дзякуючы намаганням пробашча кс. прэлата Антонія Ханько, са згоды біскупа Гродзенскага Аляксандра Кашкевіча. Культ Божай міласэрнасці ў парафіі пачаў развіваць папярэднік пробашча кс. інфулат Міхал Арановіч. У цэнтры капліцы знаходзіцца фігура Езуса Міласэрнага, а вышэй на сцяне віднеюцца выявы шанавальнікаў культу Божай міласэрнасці, між іншым, сясцёр з Кангрэгацыі Божай Міласэрнасці: с. Тэрэзы Патоцкай (заснавальніцы) і с. Цэцыліі Абухоўскай (маці-настаяцельніцы); сясцёр назарэтанак; а таксама ксяндзоў: Юзафа Грасэвіча (пробашча ў Каменцы), Міхала Арановіча (пробашча пабернардынскага касцёла) і Пятра Барташэвіча (пробашча ў Жалудку). Усе гэтыя асобы актыўна прычыніліся да развіцця культу Божай міласэрнасці на тэрыторыі сучаснай Беларусі.

***Усе 16 алтароў, выкананыя ў стукавым дэкоры (са штучнага мармуру), адносяцца да асаблівых каштоўнасцей святыні.***

## У касцёле захавалася шмат рарытэтных рэлігійных прадметаў

Адной з самых старэйшых рэчаў у святыні з'яўляецца табліца-памятка кансэкрацыі касцёла, якую здзейсніў біскуп Яўстахій Валовіч 13 мая 1618 года. Пры ўваходзе ў касцёл знаходзіцца драўляная фігура ўкрыжаванага Езуса Хрыста. Існуе меркаванне, што яна была ўстаноўлена там у 1680 годзе (раней знаходзілася ў галоўным алтары). Старэйшыя воты ў святыні датуюцца 1796 годам. Каля 1800 года ў касцёле размешчаны канфесіяналы, якія знаходзяцца там да сёння.

***Магчыма, некаторыя рарытэтныя рэчы з пабернардынскага касцёла з часам будуць перададзены ў дыяцэзіяльны музей (пасля яго адкрыцця).***

**Касцёл св. Казіміра ва Уселюбе** *(дэканат Навагрудак)*



*пабудаваны ў 1433 годзе (дата кансэкрацыі невядома)*

**Касцёл св. Мікалая, біскупа, у Геранёнах** *(дэканат Іўе)*



*пабудаваны ў 1519 годзе кансэкраваны ў 1771 годзе*

**Касцёл Узвышэння Святога Крыжа ў Быстрыцы** *(дэканат Астравец)*



*пабудаваны ў 1523 годзе (дата кансэкрацыі невядома)*

**Касцёл св. Міхала Арханёла ў Гнезне** *(дэканат Ваўкавыск)*



*пабудаваны ў 1524 годзе кансэкраваны ў 1527 годзе*

**Касцёл св. Міхала Арханёла ў Смаргоні**



*пабудаваны ў 1553 годзе (дата кансэкрацыі невядома)*

# 10 ЗАПАВЕДЗЯЎ ПІЛІГРЫМА

### 1. Загадзя паклапаціся пра дарогу.

Пілігрым павінен напярэдадні падумаць аб тым, што можа спатрэбіцца яму ў дарозе, і сабраць неабходныя рэчы. Гэта не адбываецца ў апошні дзень – ёсць верагоднасць нешта выпусціць з-пад увагі. Пра шмат якія рэчы ўжо паклапаціліся арганізатары. Няхай жа асабіста Табе не будзе сорамна за такія дэталі, як, напрыклад, непадрыхтаваны заплечнік або нязручны, некамфортны абутак.

### 2. Вызначыся з інтэнцыяй, з якой вырушыш у шлях.

Задумайся, што Цябе зараз хвалюе, непакоіць, з якім намерам хацеў бы адправіцца ў дарогу да святога месца. Гэта могуць быць інтэнцыі падзякі, просьбы, перапрашэння за грахі і інш. Не забывайся таксама "забіраць" інтэнцыі ў гаспадароў дома, дзе Цябе прымаюць на начлег. Гэта будзе найлепшай падзякай людзям за ўчыненае дабро.

### 3. Памятай, што найважнейшы ў дарозе – Бог.

Пілігрымка – гэта, перш за ўсё, час малітвы і пакаяння (рэкалекцыі ў дарозе). На галоўным месцы павінен быць Бог, дзеля Яго скіроўваемся ў шлях да святога месца. Бог не чакае "на фінішы" – Ён з Табою ў дарозе. Таму варта першачаргова засяродзіць увагу не на тым, што "з гэтага свету", але скіраваць свой позірк на Найвышэйшага, разам з якім шлях пілігрыма напаўняецца глыбокім і сапраўдным сэнсам.

### 4. З годнасцю і самаахвярнасцю прымай напатканыя цяжкасці.

Шлях пілігрыма нялёгкі. Нярэдка ў дарозе здараюцца розныя перашкоды, нечаканасці. Варта прымаць жыццёвыя складанасці ў духу пілігрымскай самаахвярнасці. У той жа час можна ахвяраваць цярпенні ў пэўнай інтэнцыі. Такім чынам, гэта прынясе максімальную карысць у духоўным плане.

### 5. Будзь пунктуальным.

Спазненні з прывала, на пасілак, св. Імшу парушаюць парадак пілігрымкі і ствараюць непаразуменні паміж яе ўдзельнікамі. Безумоўна, трэба паважаць людзей, з якімі крочыш побач. Нядбайныя адносіны могуць даставіць акружаючым непрыемнасці, праблемы, якіх можна было б і пазбегнуць. Неабходна быць пільным, захоўваючы правілы распарадку, падпарадкоўвацца адказным за паломніцтва, якія кіруюцца вызначанай праграмай.

### 6. Будзь уважлівым да таварышаў па пілігрымцы.

Мець адкрытае на бліжняга сэрца – значыцца быць чулым да яго патрэб. Калі заўважаеш, што некаму патрэбна дапамога, не заставайся абыякавым. І заўсёды старайся знайсці для таварышаў па пілігрымцы добрае слова і ўсмешку. Такія жэсты з Твайго боку здольны ўзняць бліжняга на духу і дадаць яму патрэбных сіл, калі іх ужо не стае.

### 7. Вызнавай сваю веру з гонарам.

Не саромейся сведчыць аб сваёй прыналежнасці да Хрыстовага Касцёла. Далучайся да спеваў праслаўлення, супольнай малітвы, з якімі па дарогах крочыць пілігрымка. Не ляніся памахаць рукой жыхарам населеных пунктаў, праз якія або каля якіх праходзіць паломніцтва. Пілігрымка з'яўляецца выразнай дэманстрацыяй хрысціянскай веры.

### 8. Падчас малітвы ўзгадвай пра іншых людзей.

У дарозе падчас агульнай або прыватнай малітвы і св. Імшы ўспомні пра родных, блізкіх, сяброў, знаёмых і незнаёмых, з якімі разам ствараем супольнасць Касцёла. Прысвяці сваю малітву ў іх інтэнцыях. Заступніцкая, яна мае асаблівую моц.

### 9. Прыступі да сакраманту пакаяння, каб злучыцца з Хрыстом у Эўхарыстыі.

Каб плённа скарыстаць з рэкалекцый у дарозе, варта прыступіць да сакраманту пакаяння і паяднання. Гэта можна зрабіць непасрэдна перад пачаткам пілігрымкі або падчас яе. Сэрца, ачышчанае ад грахоў, дорыць адчуванне прыемнай бязважкасці, з-за чаго і шлях падаецца лягчэйшым.

### 10. Па прыбыцці да святога месца прымі ўдзел у чуванні.

Прыйшоўшы ў канчатковы пункт пілігрымкі, знайдзі час, каб пабыць сам-насам з Богам. Безумоўна, вельмі важна прыняць удзел ва ўрачыстасцях, але патрэбны і нейкі час, каб суцішыцца. Менавіта для гэтай мэты кожны скіроўваецца да святога месца, каб асабіста стаць перад Богам.

*Ангеліна Пакачайла*

# А ці ведалі Вы, што... ?

### Сотні гадоў з вежы касцёла б'юць у вялізны звон

У касцёльнай вежы знаходзяцца 2 званы (з 4-ох ранейшых), якія паходзяць з XVIII ст., зладжаныя на збераженні і намаганнямі віленскага майстра ды настаяцеляў былога кляштара айцоў бернардынцаў. Самы вялікі з іх важыць амаль 5 тон!

Дарэчы, на ўсіх старажытных гродзенскіх званах была змешчана інфармацыя: "Grodnae apud Patrum Bernardinorum", што значыць, што яны былі адліты ў майстэрні ў кляштары.

***Адзін са старадаўніх званоў можна пачуць з вежы касцёла падчас вялікіх урачыстасцей.***

### На тэрыторыі былога кляштара айцоў бернардынцаў месціцца духоўная семінарыя

Сёння да пабернардынскага касцёла прылягае будынак Вышэйшай духоўнай семінарыі. Раней на гэтай тэрыторыі знаходзіўся кляштар айцоў бернардынцаў. Магчыма, для яго было прыстасавана месца былых каралеўскіх стайняў (у 1494 годзе князь Аляксандр Ягелончык аддаў угоддзі пад уласнасць манахаў). Акрамя касцёла і кляштара, на землях айцоў бернардынцаў размяшчаліся могілкі, каплічка, аркада, школа, шпіталь-прытулак, сад, агарод, а таксама гаспадарчыя будынкі: лазня, кузня, студня, мураванка, бровар, стайня, млын, збожжасховішча, хлявы, хмельнік.

Насупраць праз дарогу знаходзіўся касцёл і кляштар сясцёр бернардынак. Ён быў пабудаваны прыкладна ў той жа час. Дзейнічаў да сярэдзіны XIX ст. Сёння на месцы былога касцёла і кляштара знаходзіцца Гродзенскі абласны драматычны тэатр.

***У пачатку 1920-х гадоў частку кляштара айцоў бернардынцаў займала жаночая пачатковая школа, якой кіраваў пробашч пабернардынскага касцёла кс. канонік Антоній Курыловіч.***

### У касцёле брала шлюб вядомая пісьменніца

Амаль 124 гады таму ў пабернардынскім касцёле быў заключаны шлюб знакамітай польскай пісьменніцы Элізы Ажэшка з адвакатам Станіславам Нагорскім. У 1991 годзе, да 150-годдзя з дня нараджэння пісьменніцы, у адну з калон святыні была ўмуравана памятная табліца ў яе гонар.

Эліза Ажэшка правяла ў Гродне большую частку свайго жыцця. Дзякуючы ёй горад стаў важным цэнтрам літаратурнага жыцця. Дом пісьменніцы быў месцам сустрэчы многіх вядомых і выдатных навукоўцаў, пісьменнікаў і мастакоў. Пры жыцці Эліза нават намінавалася на Нобелеўскую прэмію па літаратуры. Акрамя таго, яна актыўна займалася грамадскай і дабрачыннай дзейнасцю.

***У касцёле таксама захоўваецца памяць аб 12-ці выдатных дзеячах Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, многія з якіх выступілі фундатарамі ўзвядзення святыні.***

*Ангеліна Пакачайла*

**Касцёл св. Мікалая, біскупа, у Міры** *(дэканат Навагрудак)*



*пабудаваны да 1587 года*
*кансэкраваны ў 1587 годзе*

**Касцёл Адшукання Святога Крыжа ў Гродне**



*пабудаваны ў 1595-1600 гадах*
*кансэкраваны ў 1618 годзе*

**Касцёл Найсвяцейшай Тройцы ў Жодзішках** *(дэканат Смаргонь)*



*пабудаваны ў 1612 годзе*
*(дата кансэкрацыі невядома)*

**Касцёл св. Яна Хрысціцеля ў Гальшанах** *(дэканат Ашмяны)*



*пабудаваны да 1618 года*
*кансэкраваны ў 1618 годзе*

**Касцёл св. Якуба, апостала, у Цудзенішках** *(дэканат Ашмяны)*



*пабудаваны ў 1628 годзе*
*(дата кансэкрацыі невядома)*

## З КАТАЛІЦКІХ СМІ

**CatholicNews.by**

***Усё пра Яна Паўла II***

***У Польшчы ідзе распрацоўка "Вайтыла-партала", які будзе поўным інтэрнэт-каталогам матэрыялаў, звязаных з асобай Яна Паўла II, што дакументуюць яго жыццё і вучэнне.***

*Партал ствараецца ў 4-ох напрамках: папулярызацыя – матэрыялы, прыдатныя для кінарэжысёраў, журналістаў і інстытутаў культуры; адукацыя – тое, што можа спатрэбіцца настаўнікам і катэхетам; навука – для тых, хто вывучае спадчыну св. Яна Паўла II; і сектар для тых, хто прыватна зацікаўлены жыццём і вучэннем Папы.*

*WORTAL JP2 будзе запушчаны ў 2020 годзе, да 100-годдзя з дня нараджэння Папы паляка.*

**Radio Vaticana**

***"Аўстралійская калекцыя" каталагізавана***

***"Аўстралія. Індзейская калекцыя Ватыканскіх музеяў" – пад такой назвай выйшаў каталог экспанатаў папскага мастацкага збору, прысвечаны гісторыі і культуры карэнных народаў далёкага кантынента.***

*Каталог знаёміць з гісторыяй фарміравання калекцыі, якая сёння налічвае каля 300 экспанатаў. Культура кантынента аналізуецца ў разнастайных аспектах праз прызму ўкладу навукоўцаў рознага паходжання і ў цесным супрацоўніцтве з прадстаўнікамі карэнных народаў Аўстраліі.*

*Этнаграфічны музей быў створаны папам Піем XI, каб паказаць багацце культурных, мастацкіх і духоўных традыцый розных народаў. Спачатку музейны комплекс знаходзіўся ў Рыме, а затым быў перанесены ў Ватыкан.*

**eKai.pl**

***"Больш чым адзін дзень"***

***Пад такой назвай UNICEF у Польшчы распачынае кампанію, накіраваную на збор сродкаў для ратавання здароўя і жыцця нованароджаных і забеспячэння маці адпаведнай перынатальнай апекай.***

*Згодна з дадзенымі Дзіцячага фонду ААН, штодзённа ў свеце памірае каля 7 000 немаўлят. Больш за 80% смяротных выпадкаў выкліканы заўчаснымі родамі, ускладненнямі падчас родаў ці інфекцыямі.*

*Дзеці з багацейшых краін маюць нават у 50 разоў большую верагоднасць выжыць у першы месяц жыцця, чым дзеці з найбяднейшых рэгіёнаў свету. Немаўляты, народжаныя ў Японіі, Ісландыі і Сінгапуры маюць самыя высокія шансы на выжыванне, а ў Пакістане, Цэнтральна-Афрыканскай Рэспубліцы і ў Аўганістане – самыя нізкія.*

Лепш пытаць, чым пабылаць

### *Як выглядае медалік св. Бенедыкта?*

*Традыцыйны медалік св. Бенедыкта, які называюць таксама Крыжом св. Бенедыкта, паходзіць з 1664 года. Выявы на ім былі зацверджаны Апостальскай Сталіцай у 1857 годзе. У адпаведным дакуменце адзначана, што, карыстаючыся медалікам св. Бенедыкта і молячыся праз заступніцтва святога, можна выпрасіць у Бога шматлікія ласкі, асабліва абарону ад злога духа.*

*На аверсе медаліка размяшчаецца выява св. Бенедыкта, які ў правай руцэ трымае крыж, а ў левай – манаскі статут. Злева ад святога ляжыць інфула – знак улады ордэна бенедыкцінцаў, а справа сядзіць крумкач. Таксама бачны надпіс: “Crux Sancti Patris Benedicti” (“Крыж святога айца Бенедыкта”). На рэверсе – вялікі крыж, а на ім адпаведным чынам размешчаны першыя літары лацінскіх слоў, якія раскрываюць значэнне самога медаліка. Такім чынам, у 4-ох палях, падзеленых знакам крыжа, знаходзяцца наступныя знакі: CSPB (“Crux Sancti Patris Benedicti” – “Крыж святога айца Бенедыкта”). На вертыкальнай бэльцы Крыжа, зверху ўніз: CSSML (“Crux Sancta Sit Mihi Lux” – “Няхай мне свеціць Крыж Святы”). На гарызантальнай бэльцы: NDSMD (“Non Draco Sit Mixi Dux” – “Няхай згіне старажытны змей злы”). Вакол крыжа: VRSNSMV (“Vade Retro Satana, Non Suade Mihi Vana” – “Сатана няхай сыдзе, мітусня ў мяне не ўвойдзе”), SMQLIVB (“Sunt Mala Quae Libas Ipse Venena Bibas” – “Злом мяне не спакусіць, кубак атруты сам асушыць”).*

*Калі медалік кардынальна адрозніваецца ад вышэйзгаданага апісання, лепш ім не карыстацца. Па-першае, ён можа не мець пацверджання Апостальскай Сталіцы. Па-другое, можа змяшчаць акультныя і масонскія выявы, што нясе небяспеку для хрысціяніна.*

*Кс. Максім Бачарнікаў*
***Паводле grodnensis.by***

# Чаму ўшаноўваем Сэрца Езуса?

**У чэрвені мы асаблівым чынам складаем пашану Сэрцу Пана. Святкуем прысвечаную яму ўрачыстасць у пятніцу пасля актавы Божага Цела. У кожную першую пятніцу месяца ўзнагароджваем яго за грахі: свае і ўсяго свету. Чаму ўшаноўваем Сэрца, а не Асобу Хрыста? Які сэнс мае пашана, складаемая органу цела?**



Спачатку варта падкрэсліць, што паміж культам Сэрца Езуса і культам Асобы Божага Сына няма ніякіх супярэчнасцей. Нават наадварот – ушанаванне Найсвяцейшага Сэрца з'яўляецца адначасова ўшанаваннем самога Хрыста. Тут маем на ўвазе не абагаўленне аднаго з Яго органаў, а культ міласэрнай Любові, выразам якой ён з'яўляецца.

Сэрца – адзін з найважнейшых органаў чалавека. Малюнак працятага каменным лязом людскога сэрца, знойдзены ў адной з пячор на мяжы Францыі і Іспаніі (датуецца 40 тыс. гадоў да н.э.), сведчыць пра тое, што ўжо ў старажытнасці людзі ўсведамлялі сутнасць сэнсу гэтага органа: патрапіць камусьці ў сэрца – значыць пазбавіць жыцця.

У антычнай літаратуры слова “сэрца” азначала не толькі фізічны орган чалавека, але і яго ўнутраны, душэўны стан, характар. У Святым Пісанні сэрца з'яўляецца ўвасабленнем маральнасці асобы. Сам Хрыстос лічыць сэрца крыніцай зла і дабра ў людзях: “Тое, што выходзіць з вуснаў, паходзіць з сэрца, і гэта робіць чалавека нячыстым. Бо з сэрца выходзяць ліхія думкі, забойствы, чужаложства, распуста, крадзеж, фальшывыя сведчанні, блюзнерствы. Гэта і ёсць тое, што робіць нячыстым чалавека” (Мц 15, 18–20). Аднак зло не павінна займаць месца ў людскім сэрцы. Менавіта сваё Сэрца Пан Езус дае людзям як прыклад для пераймання: “Вучыцеся ад Мяне, бо Я ціхі і пакорны сэрцам” (Мц 11, 29).

Сэрца паўсюдна лічыцца сімвалам любові. Адсюль і традыцыя дарыць падарункі ў форме сардэчка, напрыклад, на Дзень закаханых ці з іншай нагоды. Сэрца рэагуе на кожны імпульс любові, аб чым пісалі ўжо многія паэты і пісьменнікі ўсіх часоў. Таму калі Хрыстос прапанаваў сваё Сэрца як сімвал і крыніцу найвышэйшай любові да людзей, то выкарыстаў вобраз добра вядомы і шырока прыняты, з-за таго такі зразумелы і красамоўны.

Любоў Бога да кожнага чалавека самая вялікая, таму што для нас і для нашага збаўлення Езус, “будучы ў пастаці Бога, не палічыў патрэбным быць нароўні з Богам, але выракся самога сябе, прыняўшы постаць слугі, прыпадобніўшыся да людзей. І з выгляду стаўшы як чалавек, прынізіў сябе, будучы паслухмяным ажно да смерці, смерці крыжовай” (Флп 2, 6–8). “Ніхто не мае большай любові за тую, калі хто жыццё сваё аддае за сяброў сваіх” (Ян 15, 13).

У Евангеллі чытаем, што Сэрца Езуса, распятага на крыжы, было прабіта кап'ём рымскага салдата. У тое ж імгненне з яго выцякла кроў і вада, што азначала аддаванне ў дары ўсіх ласкаў ад Усемагутнага, якія рыхтуюць і вядуць чалавека да вечнага жыцця. Такая вялікая любоў нашага Пана павінна ў кожным веруючым абуджаць рэфлекс удзячнасці. Мы ўсе пакліканы любіць Бога і бліжняга па прыкладзе Езусавага Сэрца. Нашыя сэрцы павінны імкнуцца стаць святыняй Усемагутнага, які мае пасяліцца ў ёй назаўсёды, а таксама цэнтрам спачування і дапамогі бліжняму.

Культ Найсвяцейшага Сэрца Езуса дапамагае вернікам нястомна ўзрастаць у любові, такім чынам набліжаючыся да любові дасканалай, якой любіць нас Бог. Трэба памятаць, што можам і нават павінны ўшаноўваць Сэрца Езуса не толькі ў чэрвені ці ў першыя пятніцы месяца, але і на працягу цэлага года. Давайце як найчасцей карыстацца такой магчымасцю!

*Кс. Павел Эйсмант*

# Святы заступнік з Падуі



**Св. Антоній Падуанскі ўшаноўваецца шматлікімі вернікамі за цуды, учыненыя праз яго заступніцтва. Нягледзячы на тое, што мінула ўжо амаль 8 стагоддзяў пасля яго смерці, святы па-ранейшаму карыстаецца вялікай пашанай у вернікаў, асабліва ў жыхароў мястэчка Адэльск, дзе кожны год 13 чэрвеня праходзіць фэст у гонар св. Антонія.**

Св. Антоній Адэльскі – так мы называлі і называем гэтага святога. Аб ім я даведаўся найперш ад сваіх бацькоў і бабулі. Кожны раз, калі мы прыходзілі ў касцёл, заўсёды спачатку ішлі маліцца да алтара св. Антонія. Мяне вельмі заваражвалі воты, якія знаходзіліся над алтаром. Я распытваў бацькоў, што азначаюць такія знакі і чаму яны там знаходзяцца. Даведаўшыся, што гэта сімвалы ўдзячнасці ад людзей за атрыманыя ласкі, пранікся вялікай пашанай да св. Антонія і, будучы падлеткам, часта маліўся каля алтара з цудоўным абразом святога.

Калі ў 1961 годзе наша сям'я пераехала ў Гродна, я як парафіянін францысканскага касцёла часта маліўся перад абразом св. Антонія ў святыні, асабліва падчас экзаменаў у школе, пры паступленні ў інстытут і ў студэнцкія гады. Нярэдка прыходзіў да алтара святога ў пабернардынскі касцёл.

Але трэба адзначыць, што культам св. Антонія я прасякнуўся менавіта ў адэльскай парафіі. Маё дзяцінства прыпала на гады ганенняў на веру, калі ў мястэчку доўгі час не было святара. Аднак на адпуст у гонар св. Антонія вернікі заўсёды дабіваліся ва Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцей дазволу, каб прыехаў ксёндз з іншай парафіі. Памятаю, якія натоўпы людзей прымалі ўдзел у адпустовых набажэнствах... Здавалася, што ўвесь навакольны свет з'язджаўся ў Адэльск. Людзей прыцягваў таксама кірмаш, які адбываўся падчас фэсту.

Культ св. Антонія яшчэ больш развіўся ў мясцовасці пасля таго, як у сярэдзіне 50-ых гадоў мінулага стагоддзя пробашчам быў прызначаны кс. Пётр Барташэвіч, таленавіты казнадзей і апякун моладзі. Міністрантам я шмат часу праводзіў у закрыстыі і на свае вочы бачыў, як парафіяне прасілі святара, каб той памаліўся ў іх асабістых інтэнцыях да св. Антонія. Людзі моцна верылі ў дапамогу святога, таму звярталіся да яго. На мяне, падлетка, гэта рабіла вялікае ўражанне. Не пабаюся сказаць, што мая духоўная фармацыя адбывалася пад наглядам св. Антонія. Культ святога і вера людзей у яго дапамогу ў часы, калі ўсюды казалі, што рэлігія – гэта опіум для народа, былі такімі значнымі, што ўсе захады атэістаў не змаглі парушыць фундамент Касцёла.

Сёння нельга сабе ўявіць Адэльск без св. Антонія і адпусту ў яго гонар. Да ўрачыстасці прымеркаваны розныя набажэнствы, нават апоўначы. Прыемна бачыць, што традыцыя прамаўляць Ружанец усёй сям'ёй, ходзячы навокал касцёла, трывае да гэтага часу, як і абыходжанне галоўнага алтара на каленях. Дзякуючы намаганням былога пробашча кс. Валерыя Быкоўскага ў Адэльску ўстанавілі скульптуру святога. Цяпер ён вітае і праводзіць падарожнікаў, што завіталі ў мястэчка. Цяперашні пробашч кс. Віталій Внароўскі распачаў маштабныя рамонтныя працы ў касцёле, якія, напэўна, будуць спрыяць далейшаму развіццю культу св. Антонія.

Вядома, што святы з'яўляецца апекуном, які дапамагае знаходзіць згубленыя рэчы. Менавіта ў мяне гэта чамусьці асацыявалася са страчанай верай, таму лічыў неабходным маліцца да святога, каб адшукаць яе. Будучы ўжо святаром і біскупам, я часта прыбягаю да гэтага параўнання, бо справа згубы веры вельмі актуальна ў наш час. Веру, што праз заступніцтва св. Антонія сучасны чалавек можа нанова адшукаць веру і жыць ёю. Таму ў наш час прагрэсіруючай секулярызацыі варта звяртацца да святога і прасіць яго дапамогі, каб заставацца моцнымі верай і хрысціянскім сведчаннем.

*Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч*

## НАВІНЫ




### ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫ ДЗЕНЬ ДЗІЦЯЦІ

VIII Дыяцэзіяльны дзень дзіцяці адбыўся пры гродзенскай парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі. На сустрэчу прыбылі таксама прадстаўнікі з Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі і Пінскай дыяцэзіі. Усяго ў свяце прыняло ўдзел больш за 2 500 чалавек. Дзецям спадарожнічалі манаскія сёстры, святары, катэхеты, бацькі і апекуны. Урачыстае адкрыццё здзейсніў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч разам з галоўным арганізатарам кс. Юрыем Марціновічам. Багатая праграма сустрэчы ўключала шэраг мерапрыемстваў. Цырульніцкі салон, творчая майстэрня, батуты, надзімаными горкі – толькі некаторыя з забаў, якімі маглі скарыстацца ўдзельнікі свята. Галоўнай падзеяй дня стала св. Імша, якую цэлебраваў ардынарый дыяцэзіі.

Напярэдадні Міжнароднага дня дзіцяці ў Гродне адбыўся аўтапрабег пад лозунгам "Гродна – за жыццё", у парафіі свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі – велапрабег пад назвай "Дзеці Іўя за жыццё і мір", у парафіі св. Міхала Арханёла ў Смаргоні – Свята сям'і.

## ДАБРАЧЫННАЕ ТАВАРЫСТВА "КАРЫТАС"

Дыяцэзіяльны "Карытас" адкрыў дабрачынную тэлефонную лінію па нумары: 89-02-214-22-22. Памер ахвяравання праз тэлефонны званок – 3 рублі. Сабраныя сродкі будуць накіраваны на аказанне дапамогі дзецям са шматдзетных, няпоўных і замяшчаючых сем'яў, людзям з інваліднасцю, а таксама грамадзянам, якія апынуліся ў цяжкай жыццёвай сітуацыі.

## БІСКУПЫ БЕЛАРУСІ

ККББ паведамляе, што ў Беларусі ствараецца падрыхтоўчы курс для кандыдатаў да святарства з сядзібай у Мінску, Гродзенская ВДС пераўтвараецца ў Міждыяцэзіяльную духоўную семінарыю, у якасці эксперымента на працягу наступных 2-ух акадэмічных гадоў Пінская ВДС застаецца дыяцэзіяльнай семінарыяй для кандыдатаў да святарства для Пінскай дыяцэзіі. Палажэнні адпаведнага дэкрэта ўступаюць у сілу з 2018/2019 акадэмічнага года.

## АДНЫМ РАДКОМ

• На адпустовую ўрачыстасць у парафію Найсвяцейшай Тройцы ў Гервятах (дэканат Астравец) прыбыў з візітам арцыбіскуп Вільнюскі Гінтарас Грушас. • У будынку курыі прайшла сустрэча катэхетаў Гродзенскай дыяцэзіі, дзе быў падсумаваны 2017/2018 катэхетычны год. • "Першакамунійныя" дзеці з парафіі свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі здзейснілі аўтобусную пілігрымку ў дыяцэзіяльны санктуарый у Тракелях. • Прыміцыйная св. Імша новапрэзбітэра кс. Аляксея Венцкевіча, які атрымаў святарскае пасвячэнне з рук арцыбіскупа Марэка Ендрашэўскага ў Стадніках (Польшча), адбылася ў гродзенскай парафіі Божай Міласэрнасці. • У дыяцэзіяльным санктуарыі ў Тракелях адбылася агульная сустрэча членаў малітоўнага руху за святароў "Маргарытка" ў Гродзенскай дыяцэзіі, а таксама агульнанацыянальная сустрэча Францішканскага ордэна свецкіх. • Піярскае душпастырства настаўнікаў з Ліды і Шчучына сабралася на супольнай сустрэчы ў лідскай парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі. • Да Дыяцэзіяльнага дня бацькі з Ашмян у Баруны вырушыла пешая пілігрымка мужчын. • Дзеці з парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Язафата Кунцэвіча ў Сапоцкіне прынялі ўдзел у св. Імшы з нагоды 5-ай гадавіны беатыфікацыі бл. Малгажаты Шэўчык у Асвенціме (Польшча).

*Агляд навін падрыхтаваны на падставе інтэрнэт-старонкі* ***grodnensis.by.***

**Паважанаму Айцу Томашу Ксёнжкевічу**
складаем словы шчырага спачування і жалю ў сувязі са смерцю таты.
Няхай добры Бог як мага хутчэй прыме яго ў сваё Валадарства,
а Вам удзеліць моцы і цярплівасці.

*Парафіяне з Азёраў*

**У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:**

**10 чэрвеня 1998 г.** – кс. прэлат Міхал Варанецкі СМ, *ген. вік., Гродзенская ВДС;*
**18 чэрвеня 1954 г.** – кс. кан. Антоній Курыловіч, *ген. вік., проб. Гродна;*
**19 чэрвеня 1942 г.** – кс. Пётр Аранскі, *проб. Гальшаны;*
**19 чэрвеня 1955 г.** – кс. абп Рамуальд Ялбжыкоўскі, *Мітрапаліт Віленскі;*
**21 чэрвеня 1941 г.** – кс. Станіслаў Сташэліс, *проб. Сурвілішкі;*
**22 чэрвеня 1941 г.** – кс. Станіслаў Зубковіч, *проб. Трабы.*

## АНОНСЫ

### ІГНАЦЫЯНСКІЯ РЭКАЛЕКЦЫІ АДБУДУЦЦА Ў НАВАГРУДКУ

**Духоўныя практыкаванні, запланаваныя на 17–23 чэрвеня, будуць праходзіць у маўчанні. Прадугледжана толькі штодзённая размова з духоўным кіраўніком.**

Да ўдзелу запрашаюцца вернікі, кансэкраваныя асобы і святары.

*Падрабязная інфармацыя і запіс па тэлефонах: (8 029) 637-55-14, (8 033) 687-29-02 – кс. Тадэвуш Крыштопік. E-mail: kstad@tut.by.*

### КАРМЭЛІТЫ БОСЫЯ ЗАПРАШАЮЦЬ НА РЭКАЛЕКЦЫІ

**Гэта будзе час духоўнага аднаўлення ў духу св. Тэрэзы ад Езуса, св. Яна ад Крыжа, св. Тэрэзы ад Дзіцятка Езус і іншых святых кармэліцкага ордэна.**

**План рэкалекцый да канца 2018 года:**

**24–26 жніўня** – "Малітва як падрыхтоўка да сакраманту пакаяння", *а. Юрый Кулай OCD;*
**24–28 верасня** – "Роля Святога Духа ў духоўным жыцці і служэнні святара" (для святароў), *а. Казімір Мараўскі OCD;*
**14–16 снежня** – "У садзе св. Тэрэзы ад Езуса – шлях духоўнага жыцця", *а. Сяргей Трысцень OCD.*

Упершыню рэкалекцыі пройдуць у новым манаскім доме кармэлітаў у Мядзелі (Мінска-Магілёўская архідыяцэзія).

*Па пытаннях запісу звяртацца па тэлефонах: (8 017) 972-29-00, (8 029) 557-69-12 – а. Генрых Валэйка OCD, – або па электронным адрасе: karmelmiadziel@gmail.com.*

### РАДА ПА СПРАВАХ СЯМ'І ПРЫ ККББ ЗАПРАШАЕ НА КУРСЫ-РЭКАЛЕКЦЫІ

**Яны адбудуцца 22–27 чэрвеня ў Навагрудку (вул. 1 Мая, 26).**

Падчас сустрэчы ўдзельнікі змогуць паглыбіць свае веды адносна пытанняў веры, сямейнага жыцця, спосабаў будавання добрых стасункаў у сужэнстве. Кожны атрымае магчымасць задаць хвалюючыя пытанні падчас адмысловага пункту праграмы "100 пытанняў да...". Удзел у курсах-рэкалекцыях могуць прыняць усе зацікаўленыя і асабліва тыя, хто рыхтуецца стаць ці ўжо працуе кансультантам сямейнага жыцця.

*Запіс да 15 чэрвеня па тэлефоне (8 029) 588-42-73 або праз электронную пошту meleshko_irina@mail.ru (Ірына Мялешка).*

### "ШКОЛА НАРАДЖЭННЯ" ПРОЙДЗЕ Ў НАВАГРУДКУ

**Курс заняткаў для сужэнцаў, гінеколагаў, акушэраў і іншых зацікаўленых запланаваны на 6–11 ліпеня.**

Яго мэта – падрыхтоўка бацькоў да натуральных родаў, а таксама фармацыя інструктараў, якія будуць дапамагаць маладым сем'ям у перадродавы перыяд.

**"Школа" прапануе цыкл сустрэч:**

- выкананне спецыяльнай гімнастыкі;
- музыкатэрапія;
- адпачынак, рэлакс;
- падрыхтоўка да нараджэння;
- догляд за нованароджаным.

Заняткі праходзяць у цікавай і разнастайнай форме: слуханне лекцый, прагляд фільмаў і малітва за дзяцей. "Школа нараджэння" носіць хрысціянскі характар, бо грунтуецца на асабістай размове з Богам. Галоўны пункт дня – Эўхарыстыя.

*Запісацца на курс можна да 26 чэрвеня па электронным адрасе meleshko_irina@mail.ru або па тэлефоне (8 029) 588-42-73 (Ірына Мялешка).*

### ЛЕТНІЯ РЭКАЛЕКЦЫІ РАСПАЧЫНАЮЦЦА Ў РОСІ

**Штомесячна ў рэкалекцыйным цэнтры "Дом міласэрнасці" будуць адбывацца 3-дзённыя духоўныя практыкаванні.**

**15–17 чэрвеня:** "Бог так узлюбіў свет..." (Ян 3, 16), *кс. Чэслаў Паўлюкевіч.*
**22–24 чэрвеня:** рэкалекцыі для сужэнстваў з малітвай аб дары патомства, *кс. Чэслаў Паўлюкевіч.*
**29 чэрвеня – 1 ліпеня:** рэкалекцыі для мужчын, *кс. Валерый Лісоўскі.*
**13–15 ліпеня:** "Бо калі вы будзеце дараваць людзям правіны іх..." (Мц 6, 14), *кс. Мікалай Ціхановіч.*
**20–22 ліпеня:** "Калі хто не народзіцца згары, не можа ўбачыць Божага Валадарства" (Ян 3, 3), *кс. Чэслаў Паўлюкевіч.*
**27–29 ліпеня:** "Да ацалення праз прабачэнне", *кс. Юзаф Ганьчыц.*
**10–12 жніўня:** "Не бойся, толькі вер..." (Мк 5, 36), *кс. Юрый Кузьміч.*
**24–26 жніўня:** "Сем смяротных грахоў" (згодна вучэнню Айцоў Касцёла), *кс. Аляксей Раманчук.*

Пачатак рэкалекцый у 18.00. Заканчэнне – у 15.00.

*Для ўдзелу ў духоўных практыкаваннях неабходна абавязковая рэгістрацыя па тэлефоне: (8 029) 886-31-28. Па пытанні запісу просьба тэлефанаваць з панядзелка па пятніцу ў гадзінах: 11.00–12.00, 20.00–21.00.*

## Каляндар падзей

***11 чэрвеня***
*Успамін св. апостала Барнабы.*

***12 чэрвеня***
*Успамін бл. Генрыха Глябовіча, прэзбітэра, мучаніка ІІ Сусветнай вайны.*

***13 чэрвеня***
*Успамін св. Антонія Падуанскага, прэзбітэра і доктара Касцёла.*

***14 чэрвеня***
*Успамін св. Алаізія Ганзагі, манаха.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace". Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Чэрвень***
*Каб хрысціянскія сем'і дыяцэзіі, якія перажываюць крызіс, духоўна аднавіліся і былі гатовыя пайсці на ахвяру любові дзеля карысці агульнай і сваіх дзяцей.*

# Белая лілея



*На ўскраіне горада ў лесапарку размяшчалася невялікая сажалка. Каля яе берагоў раслі прыгожыя жоўтыя гарлачыкі. А пасярэдзіне ўзвышалася белая лілея, найпрыгажэйшая. Яна паволі гайдалася на вадзе ад налятаўшага ветрыку.*

*Аднойчы было вельмі горача і душна. Бліжэй да вечара з вады павылазілі жабы. Яны голасна спявалі хорам свае песні. А пасля, развесяліўшыся, пачалі мясіць гразь. І не толькі выбрудзіліся самі, але і сталі кідацца ёю ў жоўтыя гарлачыкі.*

*– Што вы робіце? – пакрыўдзіліся кветкі.*

*Але жабы разгуляліся так, што ім было вельмі смешна, калі гарлачыкі, плачучы, адварочваліся.*

*– Гэй вы, чысцюлі! – крычалі жабы. – Глядзіце, якая гразь мяккая і прыемная, як хораша ў ёй купацца...*

*Стомленыя і перапэцканыя гарлачыкі ўжо перасталі супраціўляцца і адварочвацца ад ляцеўшых у іх камякоў бруду. Яны не абмываліся ў вадзе, глядзелі на ўсё з абыякавасцю. Урэшце жабы нацешыліся і перасталі звяртаць увагу на гарлачыкі.*

*– Трэба шпурнуць гразь вось у тую прыгажуню, – прапанавала адна з жаб і паказала на белую лілею.*

*– Не! – спалохана закрычала лілея. – Не, я лепей памру, чым дазволю свае беласнежныя пялёсткі запэцкаць чорнай граззю!*

*І жабы з усіх бакоў пачалі шпурляць у яе бруд. А яна хавалася пад ваду, выглядвала на паверхню і хавалася зноў.*

*Але раптам знекуль наляцеў ветрык.*

*– Не бойся, лілея! Не бойся! І пасярод гразі, і нават пасярод балота заставайся чыстай і белай, – прашаптаў ён.*

*Ветрык падзьмуў мацней, потым яшчэ мацней і нагнаў хмары. Прагрымеў гром і пайшоў цёплы лівень. Змоўклі і пахаваліся жабы. Ім стала страшна. Калі ж лівень скончыўся, а хмары разышліся, на небе ўзышла вялікая поўня. У яе святле было відаць, што, хоць дождж і абмыў гарлачыкі, іх пялёсткі пашкодзіліся, а некаторыя і зусім абламаліся. І толькі белая лілея, прыгожая, як заўжды, раскачвалася пасярод сажалкі на вадзе. Над ёю ў небе прыгожа заліваліся салаўі. Адзін з іх, самы звонкі, падляцеў да кветкі.*

*– Я буду кожны вечар спяваць толькі для цябе, прынцэса, – сказаў салоўка. Лілея ў адказ усміхнулася.*

*Над ставам стаяла адна з прыгажэйшых начэй, поўная цудоўных мар і кахання.*

*Галіна Здановіч, г. Ваўкавыск*

## Ад шчырага сэрца

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Здзіславу Пікулу**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем найлепшыя пажаданні: Божага благаслаўлення, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, шчодрых дароў Святога Духа і ўсіх ласкаў ад Хрыста. Жадаем таксама моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, душэўнага супакою, штодзённай радасці, усмешкі, цішыні ў сэрцы, цярплівасці і добрых людзей побач. Дзякуем за адкрытасць і адданую службу Богу і людзям.

*З удзячнасцю, парафіяне*

**Паважанаму Ксяндзу Ігару Анісімаву**

з нагоды Імянін жадаем шмат здароўя, радасці, святла Святога Духа і сталай апекі Панны Марыі. Няхай кожны дзень будзе напоўнены Божай любоўю, а выконваемая праца прыносіць радасць і благаслаўлёны плён.

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам са Слоніма*

**Паважанаму Ксяндзу Прэлату Антонію Філіпчыку**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: Божага благаслаўлення і апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, супакою ў сэрцы, моцнага здароўя, добразычлівых людзей на святарскім шляху і поспехаў у дасягненні пастаўленых мэт.

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Ваўкавыска*

**Паважаны Ксёндз Пробашч Антоній Філіпчык!**

З нагоды Імянін прагнем пажадаць Вам мноства Божых ласкаў, сіл і стойкасці на кожны дзень, моцнага здароўя і шмат радасці. Няхай Бог ва ўсім Вас благаслаўляе, а Святы Дух удзяляе неабходныя дары. Ад усяго сэрца дзякуем за бацькоўскую любоў, а таксама за клопат пра нас і святыню!

*З малітвай, парафіяне з касцёла св. Вацлава ў Ваўкавыску*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Здзіславу Пікулу**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні, спалучаныя з малітвай. Жадаем шчодрых Божых ласкаў, здароўя на доўгія гады, дароў Святога Духа, няспыннай апекі Маці Божай, стойкасці на святарскім шляху, які вызначыў Вам усемагутны Бог, а таксама людской дабрыні. Мы схіляем нізка галовы, дзякуючы Вам за абвяшчэнне Божага слова, ахвярную працу, цярплівасць, дабрыню, веліч сэрца і любоў.

*Вернікі з Дзятлава*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Рэйшалю**

з нагоды 60-гадовага юбілею перасылаем мноства сардэчных пажаданняў: здароўя, радасці, Божага благаслаўлення, апекі Найсвяцейшай Маці і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай Бог, які ўказаў Вам дарогу да святарства, вядзе праз жыццё і дапамагае перамагаць усе цяжкасці.

*Вернікі з вул. Маладзёжная, Камсамольская, Лугавая*

**Паважанаму Айцу Антонію Пажэцкаму**

з нагоды Імянін перасылаем самыя найлепшыя пажаданні: апекі Найсвяцейшай Маці і святога Заступніка на кожны дзень, святла Святога Духа, усіх Божых ласкаў, сіл і здароўя, благаслаўлёнага плёну на ніве душпастырскай працы.

*Сям’я Пажэцкіх*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Антонію Абухоўскаму**

з нагоды Імянін жадаем шмат здароўя, радасці, сілы, стойкасці, апекі Найсвяцейшай Маці і Анёла-ахоўніка. Няхай міласэрны Бог заўсёды адорвае Вас сваімі ласкамі, а Святы Дух напаўняе дарамі. Шчасці Божа!

*Парафіяльная рада, вернікі з Сапоцкіна, сям’я Касцюшка*

**Паважанаму Айцу Пробашчу Антонію Пажэцкаму**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: здароўя, душэўнага супакою, нязгаснага запалу ў абвяшчэнні Божага слова і пераймані Хрыста. Няхай усемагутны Бог, які ўказаў Вам жыццёвы шлях, узнагародзіць за веру, а Найсвяцейшая Панна Марыя заўсёды па-мацярынску Вамі апекуецца.

*Рыцарства Беззаганнай, Адарацыйнае кола і парафіяне з касцёла МБ Анёльскай у Гродне*

**Паважанаму Айцу Казіміру Енджэйчаку**

з нагоды 31-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў жадаем шчодрых ласкаў ад нашага Пана і мноства дароў Святога Духа, радасці ад выконваемай паслугі і імкнення Божай дарогай да святасці.

*Яна, Вераніка і Валера, парафія Селіванаўцы*

**Паважаным Ксяндзу Антонію Абухоўскаму і Айцу Антонію Пажэцкаму**

з нагоды Імянін перасылаем букет найлепшых пажаданняў: мноства Божых ласкаў, плёну і радасці ў душпастырскай працы, сталай апекі Маці Божай Вастрабрамскай, а таксама шмат сіл у вядзенні людзей да Бога.

*Францішканскі ордэн свецкіх, Колы Жывога Ружанца і апостальства “Маргарытка” з парафіі Сапоцкін*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Шанчуку**

з нагоды 20-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў перасылаем букет найлепшых пажаданняў: Божага благаслаўлення і апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, шчодрых Божых ласкаў, дароў Святога Духа, сіл і здароўя ў рэалізацыі Божых намераў, а таксама зычлівых і добрых людзей на святарскім шляху.

*Вернікі з парафіі Гожа*

**Паважаным Сёстрам Паўле Радзівілка і Юліце Пятровай**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем здароўя, шчасця, спакойных і радасных дзён, добразычлівых людзей на жыццёвым шляху, шчодрых дароў Святога Духа, а таксама апекі Маці Божай.

*Францішканскі ордэн свецкіх, Колы Жывога Ружанца з парафіі Сапоцкін*

**Шаноўным Спадарыням Цэліне Лукоўскай і Леанардзе Ярмусік**

з нагоды Дня нараджэння жадаем моцнага здароўя і шчасця. Няхай міласэрны Бог і Святы Дух даюць Вам сілы і натхненне, а Анёл-ахоўнік апекуецца Вамі ў цяжкія хвіліны жыцця.

*Францішканскі ордэн свецкіх, Колы Жывога Ружанца з парафіі Сапоцкін*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Антонію Казлоўскаму**

з нагоды Імянін жадаем усяго самага найлепшага: здароўя, любові, апекі Маці Божай, дароў Святога Духа. Няхай Анёл-ахоўнік заўсёды чувае над Вамі. Шчаслівай працы на кожны дзень святарскай паслугі!

*З павагай, вернікі з в. Малінавая*

**Паважаная Сястра Антонія Шэйгерэвіч!**

З нагоды Імянін шчыра жадаем, каб міласэрны Пан адарыў Вас моцным здароўем, сілай, стойкасцю і нязгасным запалам у паслузе Богу і людзям. Няхай Найсвяцейшая Маці атуляе плашчом мацярынскай апекі, а Святы Дух і Пан Езус асвячаюць дарогу, па якой Вы крочыце. Дзякуем за малітвы, добрае сэрца і зычлівасць, а маме – за цудоўную дачку.

*З малітвай, вернікі з парафій Поразава і Свіслач*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Уладзіміру Гуляю**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Усемагутны адорвае шчодрымі ласкамі, святы Заступнік моліцца за Вас перад Божым алтаром, а Анёл-ахоўнік дапамагае ў нялёгкай паслузе. Няхай мары здзяйсняюцца, усмешка заўсёды ўпрыгожвае твар, а побач будуць добрыя людзі. Жадаем, каб праца на карысць Богу і людзям прыносіла шчодры плён. Вельмі ўдзячныя бацькам за сына святара.

*Касцёльны камітэт і парафіяне, Ліда-Фара*

**Паважаны Ксёндз Пробашч Раман Ялоўчык!**

З нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем шчодрых Божых ласкаў і дароў Святога Духа. Няхай кожны дзень будзе напоўнены цяплом, радасцю, дабрынёй, любоўю і надзеяй. Вера няхай толькі ўзмацняецца, а ўсе планы рэалізуюцца з Божай і людской дапамогай. Няхай душпастырская паслуга прыносіць шчодры плён, а наша малітва будзе для Вас падтрымкай у цяжкія хвіліны.

*Апостальства “Маргарытка” і парафіяне з касцёла св. Міхала Арханёла ў Гнезне*

**Паважанаму Ксяндзу Яўгену Ціхану**

з нагоды 1-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў перасылаем букет сардэчных пажаданняў: радасці, моцнага здароўя, добразычлівасці ад людзей, нязгаснага запалу ў веры, сіл і нястомнасці ў душпастырскай паслузе. Няхай святы Заступнік і Маці Божая атуляюць Вас сваёй апекай, а Святы Дух асвячае святарскі шлях.

*З малітвай, Легіён Марыі з парафіі Божай Міласэрнасці ў Лідзе*

**Дарагому Ксяндзу Паўлу Скубу**

з нагоды чарговай гадавіны святарскіх пасвячэнняў складаем сардэчныя пажаданні: шчаслівага і благаслаўлёнага жыццёвага шляху, моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, душэўнага супакою, плённага служэння на карысць Богу і людзям. Няхай Найсвяцейшая Марыя Панна апекуецца Табой у кожную хвіліну жыцця, а міласэрны Бог адорвае ўсімі ласкамі.

*З малітвай, родныя*

**Паважанаму Ксяндзу Каноніку Антонію Грэмзу**

з нагоды Імянін складаем найлепшыя пажаданні: моцнага здароўя, душэўнага супакою, поспехаў у душпастырскай працы, шмат Божых ласкаў, шчодрых дароў Святога Духа, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і святога Заступніка.

*З малітвай, апостальства “Маргарытка” з парафіі св. Францішка Ксаверыя ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Сямінскаму**

з нагоды Дня нараджэння шчыра жадаем моцнага здароўя, радасці і мноства Божых ласкаў. Няхай Езус Хрыстус заўсёды і ва ўсім дапамагае, Маці Божая нястомна чувае над Вамі, а Святы Дух шчодра адорвае сваімі дарамі. Ад усяго сэрца дзякуем за дабрыню, адкрытае сэрца і адданую працу на карысць Богу і людзям.

*З малітвай, апостальства “Маргарытка” з парафіі св. Францішка Ксаверыя ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Антонію Адамовічу**

з нагоды Імянін ад шчырага сэрца жадаем усіх Божых ласкаў, шчодрых дароў Святога Духа, штодзённай апекі Найсвяцейшай Маці і святога Заступніка. Няхай Ваша сэрца будзе заўсёды напоўнена дабрынёй і ласкай, якімі нястомна дзеліцеся з намі. Жадаем добрага настрою, усмешак, верных сяброў, надзейнай падтрымкі ад родных і блізкіх людзей.

*Парафіяне касцёла Беззаганнага Зачацця НПМ, Гродна-Паўднёвы*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб’ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл. (**8 0152) 75-64-38**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com.; http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 3005; тыраж 5240; аб’ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная